Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

8 (568) 24 лютага 2011 года

Кошт свабодны.

Ãëûáîöê³ ðà¸í

# ² ôåðìó ¢ íàäðóçêó

■ Станіслаў Раманчук

**Адной з асаблівасцей нашай краіны з'яўляецца тое, што многім буйным прадпрыемствам і нават міністэрствам з Нацбанкам загадалі некалькі гадоў назад узяць пад сваю апеку дабітыя да ручкі калгасы.**

Такім чынам і ў Глыбоцкага мясакамбіната з'явілася сваё сельгаспрадпрыемства, філіял “Галубічы”. Больш лагічна было б, каб мясцовыя мясаперапрацоўшчыкі развівалі на вёсцы ўласную сыравінную базу. Аднак зверху вырашылі, што камбінат будзе дапамагаць там будаваць новую малочную ферму. Ды і не абы-якую, а сучасную з даільнымі заламі, камп'ютарным абсталяваннем з утрыманнем 600 кароў. Па самых сціплых падліках гэта новабудоўля запатрабуе ад завадчан укладання немалых грошай, пад 20, а можа і больш, мільярдаў рублёў. Такія агромністыя сродкі патрэбны і самому мясакамбінату, які працягвае мадэрнізацыю сваёй асноўнай вытворчасці, пачатую некалькі гадоў назад. У раней “замарожаных” карпусах плануецца давесці да канца даўно задуманую рэканструкцыю мясаперапрацоўчага корпуса з устаноўкай лініі па фасоўцы мясных паўфабрыкатаў. Ужо закупленае немецкае абсталяванне пойдзе на начынку цэха забою свіней і пярвічнай перапрацоўкі буйной рагатай жывёлы. Калі хопіць на ўсё грошай, гэты бізнес-праект завершаць сёлета да канца года.




Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í

# Íå àê³íóöü âîêàì ïðûãàæîñöü

■ Чэслаў Якубовіч

**«Сінявокім», «блакітным» краем па праву называюць Браслаўскі раён, бо па шчыльнасці азёр на сваёй тэрыторыі ён апярэджвае Фінляндыю – сусветнага лідара ў гэтай сферы.**

Невыпадкова таму тут па выніках працы сёлета будуць адзначаць лепшых ў спецыяльнай прэміі “Чалавек года Браслаўшчыны – 2011” у новай намінацыі–“Развіццё прадпрымальнасці, аграэкатурызму”. Пакуль жа на прайшоўшых у райцэнтры ўрачыстасцях па падвядзенні вынікаў дзейнасці ў мінулым годзе адзначылі граматай і грашовай прэміяй гаспадыню аграсядзібы “Петухоўшчына” Крысціну Кордыш. Ды і як ні развіваць гэты бізнес на прыродзе, калі азёры краю маюць складаную канфігурацыю з маляўнічымі залівамі, бухтамі, паўастравамі на фоне лясоў, лугоў і дзіўнай прыгажосці навокал. Зараз ужо 15 буйных мясцовых вадаёмаў маюць сваіх гаспадароў. На аўкцыённых таргі для заключэння дагавора арэнды тэрмінам на 10 гадоў цяпер выставілі і возера Секлы, размешчанае паблізу гарпасёлка Відзы. У яго вадзе здаўна любілі нерасціцца ляшчы, плотка і шчупакі. Пачатковая цана лота выстаўлена прымальная, усяго 198 тысяч рублёў. Дарэчы, для развіцця прамысловага развядзення рыбы і арганізацыі яе аматарскай платнай лоўлі на Браслаўшчыне могуць перадаць дзелавым людзям яшчэ 42 падобныя вадаёмы ў розных кутках раёна.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Óçðîâåíü ïàäðûõòî¢ê³ – å¢ðàïåéñê³

■ Кастусь Александровіч

**У наш час поспеху дабіваюцца вытворцы, якія выкарыстоўваюць навейшыя тэхналогіі і заваёўваюць замежныя рынкі збыту.**

Да ліку такіх у Пастаўскім раёне адносіцца прыватны мэблевы цэнтр – самае паспяховае прадпрыемства рэгіёна з бездаходнай вытворчасцю і экспартам сваёй прадукцыі ў 20 краін свету. Пры гэтым калектыў значныя сродкі ўкладвае і ў сацыяльную сферу, у свой ФК “ПМЦ-Паставы”. Ягоная дзіцячая футбольная школа - сёння ўзор падрыхтоўкі рэзерву для ўсёй Беларусі, у якой з амаль 140 выхаванцамі розных узростаў працуюць 4 трэнеры, урач і тэхнічны персанал. Па спецзаказе ў Іспаніі быў набыты сучасны камфартабельны аўтобус узроўню лепшага айчыннага клуба “БАТЭ” (Барысаў), дзе ёсць нават сталовая, душ, клімат-кантроль і іншыя даброты цывілізацыі для далёкіх пераездаў. Усіх навучэнцаў клуб забяспечыў некалькімі камплектамі формы, экіпіроўкі і спартыўнымі касцюмамі. Стадыён, комплекс футбольных палёў, база клуба адпавядаюць сучасным патрабаванням. Невыпадкова таму юныя 16-гадовыя пастаўчане цяпер мацнейшыя ў вобласці і адны з лепшых у краіне. У лютым яны выступілі на міжнародным турніры ў Рызе, а ў сакавіку паедуць на аналагічныя спаборніцтвы ў Італію. Праз год ці два ў Паставах з'явіцца свая вельмі перспектыўная і моцная футбольная каманда майстроў.

## Лічба нумара

**3600** столькі рублёў, згодна пастановы Міністэрства эканомікі, стаў у Беларусі з сярэдзіны лютага кештаваць кілаграм фасаванага цукру. Гэты вагавы саладкі прадукт каштуе на 300 рублей меней, але відавочна, што беларусам сёлета прыйдзецца жыць пры ўсё большым і большым кошце прадуктаў харчавання, аб чым яшчэ раней папярэджвалі спецыялісты, эканамісты і работнікі гандлю. Характэрна, што першы раз у гэтым годзе цукар (уваходзіць у пералік найбольш сацыяльна значных прадуктаў) падаражэў у канцы студзеня.

Прайшло толькі паўмесяца–і зноў рэзкі ўсплеск цэн на яго, цукар у нашай краіне за два месяцы падаражэў нават на 21 %. Як нам растлумачылі, такую “ласку” на прапанове айчыннага канцэрна “Белдзяржхарчпрам” зрабілі ... дзеля дабрабыту саміх жа беларусаў. Інакш гэту “белую смерць” несанкцыянавана вывезлі б з беларускіх магазінаў за межы краіны з-за больш танных цэн, чым у суседніх дзяржавах. Зараз чыноўнікі ад гандлю (Беларусь –адна з нямногіх краін у свеце, дзе захавалі пры рынкавым сацыялізме адпаведнае міністэрства) гавораць, што рост цэн на прадукты з'яўляецца агульнасусветнай тэндэнцыяй.

Доля праўды ў гэтым сцверджанні, безумоўна, ёсць. Аднак сказаўшы “а”, не кажуць, што ў пачатку года ў рэгіёнах істотна, пад 100 долараў, знізіліся і так проста мізэрныя зарплаты. Як вядома, летась перад прайшоўшымі выбарамі заробкі павышалі, наколькі дазвалялі магчымасці суб'ектаў гаспадарання і рэзервы бюджэту. Усё рабілася, каб як мага бліжэй наблізіцца да міфічных 500 у. а., якіх у глыбінцы мала хто з простых працоўных зарабляе. У нас жа не Польшча, дзе, як паказвае тэлеканал АНТ ў сваёй цяпер адыёзнай праграме “Открытый формат”, настаўнік польскай гімназіі не можа пражыць на свае 1700 злотых у месяц (амаль 1,8 млн. бел. рублёў).

Што тады гаварыць беларускаму педагогу, у якіх заробкі ў 2 разы меншыя, як і ў большасці суайчыннікаў. Тым часам у Беларусі ў разрад далікатэсаў перайшла і грэчка (цэны на яе выраслі на 65 %), попыт на якую стаў ажыятажны, а цэны – “касмічнымі”. У сталічных магазінах 1 кг бульбы ўжо прадаецца па цане 3000 рублёў. Цікава, што яшчэ восенню айчынную бульбачку гандляры набывалі коштам па 600 рублёў. Самае сумнае: эксперты папярэджваюць, што ў Беларусі і надалей будуць расці цэны на крупяныя вырабы. Макароны і вермішэль з цяперашніх 2,5 тысяч паступова вырастуць у цане да 4 тыс. рублёў/кг.

Што ж адбываецца на самай справе? Сітуацыя такая, што непрыемная тэндэнцыя з ростам цэн на харчаванне характэрна для ўсяго свету і наша краіна не можа быць некранутай такімі працэсамі. Аднак рост цэн правакуе і рашэнне беларускага ўрада павысіць закупачныя цэны на збожжа і крупяныя культуры ўраджаю 2011 года ў сярэднім на 28 %. Як ні круці, а ў Беларусі большасць калгасаў, якія ў чарговы раз змянілі шыльду цяпер у выглядзе адкрытых акцыянерных таварыстваў, па-ранейшаму неэфектыўна гаспадараць на зямлі.

І хоць іх старшыні сталі дырэктарамі розных сельскагаспадарчых ААТ, аднак такія гаспадаркі маюць шэраг праблем і рэнтабельнасць вытворчасці ніжэй 5 %. Мясцовыя бюджэты цяпер вінаваты 1 трлн. рублёў за ранейшыя крэдыты АПК. На месцах яшчэ не прывыклі жыць па сродках, закопваюць у зямлю мільярды, а на выхадзе маюць дарагія прадукты палёў і ферм з-за папулісцкіх рашэнняў па тысячах аграгарадкоў, новых будоўлях соцень дарагіх ферм, павышэння зарплат, набыцця новай тэхнікі.

Безумоўна, вяскоўцаў трэба падтрымліваць, аднак не пастаянна за кошт астатняга грамадства. Рост цэн у нас спыніцца, як толькі яны пачнуць зніжацца і ў іншых краінах. У такой сітуацыі агучаны рост экспарту беларускага харчавання да 7 млрд. долараў у год можа стаць рэальнасцю. Варта толькі пры гэтым і пра свайго спажыўца не забывацца. Інакш не паспеем аглянуцца, як нізкія цэны на харчаванне будуць узгадвацца толькі ў сне. А значнай частцы народа стане не па кішэні купляць ранейшыя прадукты, якія яшчэ летась у нас падаражэлі на 13,1 %,а ў багатых еўрапейцаў ежа стала даражэйшай на 2,8%.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5ru

| | чацвер 24.02.11 | | | | пятн. 25.02.11 | | | | сб. 26.02.11 | | | | нядз. 27.02.11 | | | | пн.28.02. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -15 | -15 | -11 | -13 | -16 | -16 | -11 | -15 | -19 | -19 | -11 | -14 | -14 | -11 | -6 | -7 | -7 | -11 | -7 |
| Ціск, мм | 758 | 759 | 760 | 761 | 762 | 762 | 763 | 762 | 760 | 759 | 757 | 756 | 755 | 755 | 756 | 756 | 757 | 758 | 759 |
| Вільготнасць, % | 83 | 85 | 81 | 86 | 88 | 84 | 88 | 91 | 87 | 86 | 85 | 86 | 88 | 89 | 86 | 86 | 88 | 88 | 85 |
| Вецер м/сек | Ю-В 2 | Ю-В 2 | В 2 | В 2 | В 2 | В 2 | В 2 | В 3 | В 2 | Ю-В 2 | Ю-В 3 | Ю-В 3 | Ю 3 | Ю-В 4 | Ю 5 | Ю-В 4 | Ю 4 | Ю 4 | Ю 3 |
| | | 07:13 | 17:33 | | | 07:10 | 17:35 | | | 07:08 | 17:38 | | | 07:05 | 17:40 | | | 07:03 | 17:42 |
| | | 01:29 | 09:05 | | | 02:43 | 09:47 | | | 03:43 | 10:42 | | | 04:29 | 11:47 | | | 05:03 | 12:58 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**З адтэрміноўкай на адзін месяц, толькі з 1 лютага павысілі ў Беларусі ў сярэднім на 5 $ тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі. Далейшы рост цэн на харчаванне прадоўжыўся ў сярэдзіне месяца павышэннем зноў кошту цукру. Чацвёрты месяц запар імкліва таюць валютныя рэзервы краіны, якія толькі ў студзені знізіліся яшчэ на 687,7 млн. $, а ўзровень інфляцыі склаў 1,4 %. Беларускі лідар узяў зімой кароткатэрміновы адпачынак, які правёў у Сочы, раней падчас водпуску ён катаўся на горных лыжах у Аўстрыі і Швейцарыі, куды цяпер не пускаюць.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Егіпет.** Многія ў свеце станоўча ўспрынялі адстаўку пад ціскам народа Прэзідэнта Х. Мубарака, такія ж пратэсты супраць дыктатуры і галечы накрылі Алжыр, Сірыю, Йемен.

**Швейцарыя.** Тут уступіў у сілу закон аб вяртанні дзяржавам без суда грошай, скрадзеных і нарабаваных у народаў іх шматгадовымі дыктатарамі, былымі кіраўнікамі сваіх краін.

**Бельгія.** У рамках праграмы "Лічбавая Еўропа" ў Брусэлі прадставілі ўніверсальнае зараднае ўстройства для мабільных тэлефонаў, камп'ютараў.

**Расія.** Большасць расіян адобрылі рашэнне Прэзідэнта РФ Дзмітрыя Мядзведзева аб адмене ў краіне пераходу на зімовы час, пачынаючы ўжо з восені гэтага года.

**Літва.** З выбараў дэпутатаў мясцовага самакіравання 27 лютага Галоўвыбаркам краіны зняў амаль 200 кандыдатаў, якія ўтаілі, што былі раней судзімыя.

**Японія.** Зноў сур'ёзна абвастрыліся япона-расійскія адносіны пасля загаду Крамля дадаткова размясціць на спрэчных Курыльскіх астравах двух дывізіёнаў С-400.

**Казахстан.** У краіне ў спешцы пачаліся датэрміновыя прэзідэнцкія выбары, аднак іх пераможца (Н. Назарбаеў) ужо ўсім вядомы, пытанне толькі, хто яго зменіць потым.

**КНДР.** Больш за 30 грамадзян краіны (11 мужчын і 20 жанчын) здолелі на рыбацкіх лодках уцячы з камуністычнага "раю" ў Карэю, усяго да суседзяў перабеглі больш за 20 тысяч.

**Украіна.** Вядучая піўная кампанія краіны "Оболонь" назвала дыскрымінацыяй увядзенне Беларуссю ліцэнзавання яе піва, бо гэта прадукцыя значна падаражэе на рынку РБ.

**Венгрыя.** МЗС краіны пацвердзіла, што на майскі саміт "Усходняга партнёрства" ЕС у Будапешце не будзе запрошана кіраўніцтва РБ, там канчаткова вызначаць палітыку да РБ.

**Польшча.** Глава польскага МЗС Р. Сікорскі прапанаваў кіраўніку РБ "трымаць напагатове асабісты самалёт", бо прыйдзецца пакінуць краіну, што выклікала гнеў афіцыйнага Мінска.

**Латвія.** Латвійскі МЗС услед за Італіяй і Літвой выступіў супраць увядзення эканамічных санкцый да РБ, але большасць знешнепалітычных ведамстваў ЕС патрабуюць жорсткіх мер.

**Францыя.** Прэзідэнт М. Сарказі запатрабаваў ад усіх міністраў і членаў урада краіны праводзіць свае водпускі на тэрыторыі Францыі альбо з дазволу Елісейскага палаца.

**Кітай.** Поўнач краіны накрыла самая страшная за апошнія 60 гадоў засуха, шмат дзе дажджоў няма ўжо паўгода, пад пагрозай гібелі апынуліся 3 млн. галоў жывёлы.

**Літва.** Прэзідэнт Д. Грыбаўскайтэ на Міжнароднай канферэнцыі па бяспецы ў Мюнхене заклікала Еўрасаюз дазволіць простым беларусам свабодна падарожнічаць па краінах ЕС.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** На калегіі Мінфіна РБ міністр Андрэй Харкавец прапанаваў скараціць празмерную колькасць бюджэтнікаў у краіне на 10-15 %, што зэканоміць да 2 трлн. рублёў штогод.

**Мінск.** На Беларускай чыгунцы пачалі продаж білетаў на цягнікі з выкарыстаннем інтэрнэт-банкінгу па банкаўскіх пластыкавых картках на сайце www.poezd.rw.by.

**Шклоў.** Па даручэнні ўрада РБ будзе перагледжана інвестпагадненне з мясцовым малзаводам французска-расійскай кампаніі "Данон-Юнімілк".

**Лельчыцы.** Двух украінскіх браканьераў затрымалі пагранічнікі ля вёскі Вязавая з мясам забітай казулі, адзін з іх утроіў бойку, а вось маладзейшы здаўся памежнікам без бою.

**Мінск.** Па сталіцы ідуць розныя чуткі, для кго авіякампанія "Белавія" аб'явіла тэндар на пакупку самалёта VIP-класа на 14-15 мест, яго кошт для дзяржбюджэта 10-30 млн. USD.

**Гродна.** З-за ўдару стыхіі ў горадзе былі пашкоджаны 4 машыны, моцны вецер зламаў вышку аператара сотавай сувязі, без святла засталіся 252 населеныя пункты вобласці.

**Мінск.** Пастановай урада закупачныя цэны на збожжа і крупяныя культуры ўраджаю 2011 года ў Беларусі павышаны на 28 %, што далей прывядзе да рэзкага росту цэн на прадукты.

**Пружаны.** Калектыў малкамбіната дабіўся аднаўлення на працы свайго дырэктара У. Мікіціча, які спыніў пераход прадпрыемства пад поўны кантроль кампаніі "Юнімілк".

**Пухавічы.** Да міністра адукацыі РБ звярнулася з просьбай аб аднаўленні на працы ў школе педагог Наталля Ільініч, якую пасярод зімы гвалтоўна выкінулі на вуліцу.

**Калінкавічы.** З дапамогай МНС выратавалі ад гібелі 10,5 тысяч куранят на мясцовай птушкафабрыцы, якая пасля ўрагану засталася без электраэнергіі і цяпла.

**Мінск.** Ганаровы госць XVIII міжнароднай кніжнай выставы – Германія–большую частку сваёй экспазіцыі кніг памерам 255 кв. м. перадала Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

**Касцюковічы.** Днём нечакана абвалілася 20-метровая цагляная сцяна двухкватэрнага жылога дома ў вёсцы Нізькі, прыйшлося адсяліць жыхароў яшчэ аднаго аварыйнага дома.

**Быхаў.** Двое вучняў 9-га і 10-га класаў трапілі пад суд за тое, што спрабавалі ноччу скрасці карову ў жыхара вёскі Новы Быхаў, але злодзеяў затрымаў старшыня калгаса.

**Мінск.** Вядучы тэлеканала АНТ А. Міхальчанка (праграма "Как есть") абурыўся, што стаў неўязным на тэрыторыю ЕС у ліку 157 асоб, спіс пашырылі дзеячы КДБ, пракуратуры.

**Магілёў.** На вялікім экране ў цэнтры горада і ў грамадскім траспарце ў Міжнародны дзень роднай мовы гучалі беларускія вершы, запісаныя дзецьмі на мясцовай студыі тэлебачання.

## Äëÿ áÿñïëàòíàãà ïðàåçäó ¢ ãðàìàäñê³ì òðàíñïàðöå øêîëüí³ê ïàâ³íåí ìåöü äàâåäêó ¢ñòàíî¢ëåíàãà ¢çîðó



Юлія Ваніна - БЕЛТА

**Для атрымання права на бясплатны праезд школьнік павінен узяць ва ўстанове адукацыі даведку ўсталяванага ўзору. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі начальнік кіравання агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Беларусі Юры Гладкоў, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

Па словах Юрыя Гладкова, у Беларусі ўсе навучэнцы сярэдніх агульнаадукацыйных устаноў атрымалі права на бясплатны праезд у грамадскім транспарце рэгулярнага гарадскога паведамлення, гарадскім электрычным транспарце і ў метрапалітэне ад месца жыхарства (месца знаходжання) да месца вучобы і звваротна ў перыяд з 1 верасня да 30 чэрвеня. Такое права прадстаўлена ім пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 16 лютага 2011 года № 2002.

Юры Гладкоў адзначыў, што ў даведцы павінна быць ўказана пэўнае месца жыхарства ці знаходжання дзіцяці і месца вучобы. Наяўнасць у даведцы фатаграфіі не прадугледжана. "Калі паўстане неабходнасць уклейвання фатаграфіі ў даведку, то мы разгледзім магчымасць распрацоўкі даведкі іншага ўзору, дзе будзе прадугледжана фатаграфія", - дадаў ён.

Начальнік упраўлення падкрэсліў, што школьнікі будуць мець права бясплатнага праезду толькі да месца атрымання агульнай сярэдняй адукацыі і ад яго да месца жыхарства. "Дадзены дакумент не прадугледжвае бясплатны праезд школьнікаў да месца атрымання пазашкольнай адукацыі - на секцыі, гурткі, у клубы, а таксама да месца спаборніцтваў ці па іншых асабістых справах", - растлумачыў ён.

Па словах прадстаўніка Мінадукацыі, бясплатны праезд для школьнікаў забяспечаны ў мэтах выканання даручэння, дадзенага Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам на IV Усебеларускім народным сходзе. Юры Гладкоў таксама адзначыў, што кіраўнікі ПТВ, ССНУ і ВНУ таксама могуць аказваць навучэнцам і студэнтам матэрыяльную дапамогу для аплаты праезду ў грамадскім транспарце.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Шмат прэтэнзій выказаў вобласці прэм'ер-міністр РБ Міхаіл Мясніковіч наконт праграмы развіцця экспарту рэгіёна да 2015 года за кошт уласнай "сіліконавай даліны".

**Полацк.** Новым кіраўніком гарвыканкама стаў 48-гадовы экс-старшыня Дзяржкамітэта па справах моладзі Аляксандр Пазняк, які 4 месяцы працаваў памочнікам главы вобласці.

**Талачын.** Буйны начны пажар пры моцным ветры на свінаферме індывідуальнага прадпрымальніка з райцэнтра прывёў да гібелі 160 парсючкоў ва ўзросце 1-3 месяцы.

**Віцебск.** Пасля страты ў студзені транспартнікамі вобласці 3 млрд. рублёў ад бясплатнага праезда студэнтаў, навучэнцаў ПТВ на Віцебшчыне адмянілі для іх ільготы на праезд.

**Сянно.** Ужо ў першую зіму эксплуатацыі новай пяціпавярхоўкі райцэнтра па доме пайшлі трэшчыны, сталі адвальвацца шпалеры, адключыўся дамафон, у кватэрах холадна.

**Паставы.** Раён найбольш у вобласці пацярпеў ад урагану "Нікалас", без свету засталіся 45 населеных пунктаў, 3 фермы, адключыліся 108 падстанцый, РЭС працаваў і ноччу.

**Чашнікі.** Прыватная фірма "Віполь" жыхара райцэнтра Віктара Пазняка атрымала заказ на ўзвядзенне катэджнага пасёлка ў Падмаскоўі, бо яе будматэрыялы таннейшыя на 40 %.

**Полацк.** Горад стаў адным з самых праблемных у РБ для дам, бо на тысячу хлопцаў-жаніхоў ва ўзросце 19-29 гадоў тут прыходзіцца 1219 патэнцыйных дзяўчат-нявест.

**Віцебск.** На сцэне драмтэатра імя Я. Коласа адбыўся творчы вечар маладых артыстаў, зараз у трупе амаль палова – маладыя, таленавітыя выканаўцы.

**Гарадок.** Радзіму сваіх продкаў, вёску Стайкі, наведаў сусветна вядомы палярны даследчык, Герой Расіі і Савецкага Саюза, дэпутат Дзярждумы РФ Артур Чылінгараў.

**Паставы.** У райбальніцы памёр, не прыходзячы ў свядомасць, 27-гадовы жыхар райцэнтра, які на іншамарцы "FW" вечарам сутыкнуўся з дызель-поездам на Лынтупы.

**Талачын.** У бюджэце раёна на гэты год запланавалі атрымаць 927,5 млн. рублёў даходаў ад ... спагнання штрафаў ад насельніцтва. У рэгіёне жыве ўжо менш за 28 тысяч чалавек.

**Глыбокае.** Юныя прадстаўнікі раёна найлепш на Віцебшчыне выступілі на абласных прадметных алімпіядах і атрымалі 19 дыпломаў, вучні Падсвільскай СШ - 3 з іх.

**Наваполацк.** У аздараўленчым цэнтры "Пунсовыя ветразі" на Чорным моры адпачнуць летам 200 дзяцей гараджан згодна дагавора з украінскім горадам-пабрацімам Скадаўск.

**Расоны.** Віцебскі тэлезавод "Віцязь" прапанаваў пенсіянерам раёна набыць са зніжкай яго ных прыстаўкі-дэкодэры, бо неўзабаве тут запрацуе рэтранслятар толькі лічбавага ТБ.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Леанід Аляксееў

## Да 90-годдзя з дня нараджэння

**Кліменцій Кожан,**
*м. Германавічы.*



У студзені гэтага года споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння вядомага гісторыка, археолага і краязнаўцы Леаніда Васільевіча Аляксеева. Нарадзіўся ён 15 студзеня 1921 года ў Растове-на-Доне.

У 1948 годзе скончыў Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт. У 1948-1950 гадах працаваў у Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі, потым у Інстытуце гісторыі Акадэміі навук БССР. Тут ён у 1950 годзе скончыў аспірантуру. З 1953 года працаваў у Інстытуце археалогіі Расійскай Акадэміі навук. У 1962-1966 гадах выкладаў археалогію ў Магілёўскім педагагічным інстытуце.

Л.В.Аляксееў даследаваў гісторыю Смаленскай і Полацкай зямель. Ён вёў раскопкі Браслава, Друцка, Мсціслава, Рослаўля, вывучаў гісторыю археалогіі, архітэктуры, мастацтва і краязнаўства гэтых рэгіёнаў. Абараніў кандыдацкую дысертацыю па помніках археалогіі Полацкай зямлі. Гэтай тэме ён прысвяціў і сваю манаграфію “Археология и краеведение Белоруссии XVIв. – 30-е годы XX в.” Блізкім па тэме з’яўляецца артыкул Л.Аляксеева “Археология средневекового периода Белоруссии”, надрукаваны ў 1998 годзе ў навуковым часопісе “Российская археология”. Аўтар артыкула адзначаў высокі ўзровень беларускай археалогіі ў 1920-х гадах, які быў спынены сталінскімі рэпрэсіямі. Пасля Вялікай Айчыннай вайны на Беларусі засталіся толькі два археолагі. У 1949 годзе ў Беларусь з Ленінграда прыехаў археолаг Аляксей Мітрафанаў. Першым аспірантам па археалогіі Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР быў Леанід Аляксееў. Гэту аспірантуру пазней скончылі археолагі Эдуард Загарульскі, Георгі Шмыхаў, Леанід Побаль, Пётр Лысенка. Іх кнігі мелі важнае значэнне ў развіцці беларускага краязнаўства. У 1965 годзе выйшаў першы падручнік па археалогіі Беларусі, напісаны Эдуардам Загарульскім. У 1970-х гадах выйшаў двухтомнік “Очерки по археологии Белоруссии” (1970, 1972гг). Кожны год выходзілі манаграфіі беларускіх археолагаў па тэмах іх кандыдацкіх дысертацый. Выходзілі папулярныя кнігі і брашуры. Сярод іх Леанід Аляксееў выдзеліў працу Міхася Ткачова “Замкі Беларусі” (1977, 1987гг).

Апрача навуковых манаграфій і артыкулаў, прысвечаных гісторыі беларускага краязнаўства, Леанід Аляксееў выпусціў некалькі папулярных краязнаўчых кніг. У 1974 годзе ў Маскве ў серыі “Дороги к прекрасному” выйшла кніга Л.Аляксеева “По Западной Двине и Днепру в Белоруссии”. Кніга была адрасавана аматарам гісторыі і падарожжаў. Маршрут, распрацаваны аўтарам, праходзіў праз Віцебск і Полацк, потым ішоў да мяжы з Латвіяй і Літвой праз Лявонпаль, Друю, Браслаў, Дрысвяты, Опсу, Паставы, Камаі, Лучай, Глыбокае, Мядзель. Другая частка маршруту ішла ад Віцебска праз Друцк, Магілёў, Мсціслаў, Гомель.

Л.Аляксееў шмат год вывучаў горад Мсціслаў. Старажытны Мсціслаў называюць беларускім Суздалем. Ён быў некалі вялікім горадам. Цяпер ён стаіць у баку ад вялікіх дарог. Багаты помнікамі старажытнасці, Мсціслаў захаваў шмат даўніны.

Мсціслаў быў рэзідэнцыяй мсціслаўскіх князёў. Упершыню ён успамінаецца ў 1156 годзе ў Іпацьеўскім летапісе XVст. Размешчаны на высокай гары, ён быў крэпасцю, якая абараняла дальнія подступы да Смаленска. Князі ў Мсціславе з’явіліся ў другой палове XII ст., а сам горад узнік, зыходзячы з археалагічных раскопак, гадоў на 50 раней. Назва горада звязваецца з Мсціславам Уладзіміравічам – сынам Уладзіміра Манамаха, які княжыў у Смаленску ў другім дзесяцігоддзі XII ст. У 1359 годзе літоўскі князь Альгерд заваяваў Мсціслаў, надоўга далучыў яго да ВКЛ. У XVI ст. горад пераходзіў ад рускіх да Літвы і наадварот – да Расіі. Горад ляжаў каля самай мяжы абодвух дзяржаў. Апошняя грандыёзная бітва за яго адбылася ў 1654 годзе ў час вайны Масковіі з Рэччу Паспалітай. Леанід Аляксееў пісаў: “18 ліпеня войскі ваяводы цара Аляксея Міхайлавіча пад камандай князя Трубяцкога абклалі горад. Чатыры дні яны грамілі гарадскую цытадэль (так званы “замак”) з гарматаў, а на досвітку 22 ліпеня пачаўся штурм. Горад быў узяты, разбураны ўшчэнт, а ўмацаванні зраўнялі з зямлёй… У час нашых раскопак пад пластом агароднай зямлі было знойдзена велізарнае папялішча, якое адлюстроўвае пагібель горада 22 ліпеня 1654 года: рэшткі дамоў з цудоўнымі кафлянымі печамі, кавалкі магутных чыгунных гарматных ядраў, вялізныя каменныя шары, якія не паспелі скінуць на галовы ворагаў у час штурму гарадскіх умацаванняў…”

Ніжэй пажарышча, у больш старажытных слаях, ляжаў “драўляны Мсціслаў” з астаткамі драўляных пабудоў, вуліцамі, вымашчанымі бярвеннямі, са шматлікімі прадметамі быту і ўпрыгажэнняў, сярод якіх былі і ўнікальныя. Раскопкі паказалі, што Мсціслаў узнік пазней Друцка, і час яго заснавання трэба адносіць да XII стагоддзя.

Час захаваў толькі два гістарычныя помнікі глыбокай старажытнасці Мсціслава: Дзявочую і Замкавую горы.

Л.Аляксееў падрабязна апісаў езуіцкі кляштар, касцёл кармелітаў, царкву Аляксандра Неўскага, Мазолаўскі і Ануфрыеўскі кляштары, іншыя помнікі горада і ваколіц.

У XIX і пачатку XX ст. у розных месцах горада яшчэ былі бачныя курганы – апошнія сляды існаваўшага некалі тут некропаля XII ст. Пасля разбурэнняў у годзе ў 1654 годзе жыццё тут надоўга замерла, і, па словах яго гісторыка В.Г.Краснянскага, Мсціслаў паступова ператварыўся ў “захалусны гарадок Магілёўскай губерні, адрэзаны дрэннымі грунтавымі дарогамі ад усіх культурных цэнтраў”.

Страшны пажар 1858 года знішчыў многія помнікі горада: дамініканскі касцёл і кляштар, Афанасьеўскую царкву, драўляны палац Кацярыны II і іншыя. Гарэла ў гэты пажар і Троіцкая царква, перанесеная з Троіцкай гары. Яна была пабудавана ў камені ў 1834 годзе, пасля пажару была адноўлена. Да пабудовы Аляксандра-Неўскага сабора ў 1877 годзе яна лічылася саборнай і была самай вялікай у горадзе царквой. Некалі на гэтым месцы стаяла царква Параскевы-Пятніцы.

Сярод пабудоў XIX ст. у Мсціславе Л.Аляксееў выдзяляе саборную царкву Аляксандра Неўскага, якая ўзвышаецца над усімі пабудовамі ў горадзе.

Асабліва цікавы будынак гімназіі. Ён пабудаваны ў 1908 годзе. Нягледзячы на тое, што многае ў архітэктуры будынка гімназіі страчана, агульны дух будынак яшчэ перадае: высокія светлыя класы, доўгія калідоры, вялізная прасторная актавая зала.

У кнізе аўтар імкнуўся паказаць асаблівасці складанай гісторыі Беларусі, прыгажосць яе паўночных азёрных ландшафтаў, прастораў яе ўсходніх ускраін. Многа помнікаў апісана тут упершыню (драўляныя цэрквы ў Лявонпалі, у Мікалаюнцах, паштовыя станцыі і іншыя). Многія помнікі ніколі не ўспаміналіся ў рускіх крыніцах, а ў польскай літаратуры апісаны вельмі коратка (палац Плятэраў у Опсе, касцёлы ў Лучаі, Дунілавічах, Смальянах, Талачыне).

У 1996 годзе ў Мінску выйшла на беларускай мове краязнаўчая кніга Леаніда Аляксеева “Гродна і помнікі Панямоння”. Гэту кнігу аўтар прысвяціў памяці даследчыка беларускай мінуўшчыны Міхася Ткачова. У пачатку кнігі расказваецца пра помнікі Гродна і яго наваколля. Падрабязна апісаны гродзенскія касцёлы і кляштары: езуіцкі касцёл, кляштары бернардзінцаў і брыгітак, францысканскі касцёл і кляштар. Расказваецца пра дом Элізы Ажэшкі, гродзенскі гістарычна-археалагічны музей.

Далей расказваецца пра помнікі Ваўкавыска, Шчучына, Малога Мажэйкава, пра храм XVIст. у Мураванцы, замак XVIст. у Лідзе, помнікі Іўя.

У раздзеле кнігі “Наваградак і ваколіцы” расказваецца пра дзядзінец і вакольны горад, цэрквы і касцёлы, дом-музей Адама Міцкевіча. Апісаны ваколіцы Наваградка: сядзіба Храптовічаў у Шчорсах, замак у Любчы і іншыя.

У раздзеле кнігі “Па старажытнай рацэ Шчары” апавядаецца пра помнікі Слоніма, Жыровіцкі манастыр, які знаходзіцца за 10 км ад Слоніма. Чытач знойдзе ў кнізе цікавы матэрыял пра абарончы храм XVI ст. у Сынкавічах, помнікі ў Ружанах і Косаве.

Л.Аляксееў вядомы таксама як аўтар гісторыі дзекабрызму на Беларусі, гісторыі дарэвалюцыйнай навукі.

Памёр Л.В.Аляксееў 22 сакавіка 2008 года ў Маскве. Засталіся яго кнігі. Яны адкрываюць перад чытачамі новыя дарогі да прыгожага. Падарожжы па яго кнігах і апісаных мясцінах Беларусі прыводзяць нас да новых адкрыццяў.

**У дадатак да тэмы**

### Аўтограф у кнізе

Любителю
белорусской старины
от тоже любителя
ее - автора
16.11.91
(Витебск)

**Уладзімір Скрабатун**

**У свой час, яшчэ жывучы ў Латвіі, атрымаў запрашэнне на краязнаўчую канферэнцыю ў Віцебск з нагоды 830-ых угодкаў крыжа Еўфрасінні Полацкай. У праграме канферэнцыі сярод выступоўцаў было адзначана і прозвішча – Л.В. Аляксееў (Масква). Дзеля аўтографа ў дарогу прыхапіў і яго кнігу «По Западной Двине и Днепру в Белоруссии» (1974 г.)**

**Кніга і сёння стаіць на паліцы як важная крыніца інфармацыі.**



Лукомльскае гарадзішча.

# Бацькі падтрымалі сваіх сыноў не на слове, а на справе



Дзе лепшыя снайперы! У «9-ай» ці «11-ай роце»?



Перацягванне каната. Націсні аўтар здымка кнопку фотаапарата на пару секундаў пазней – магла б атрымацца ўнікальная фатаграфія ... «Разарваўся» канат! Больш «пашанцавала» тым, хто здымаў на відэа.

■ Уладзімір Скрабатун

**Напружаныя спартыўныя спаборніцтвы, аказваецца, могуць адбывацца не толькі на гарадскіх стадыёнах, але і ў школьных спартыўных залах. А тут яшчэ такая нагода – Дзень абаронцаў Айчыны!**

19 лютага ў сярэдняй школе №3 г. Глыбокае адбыліся спартыўныя спаборніцтвы дзвюх імправізаваных "ротаў" уяўнай вайсковай часткі, дзе ў ролі "галоўнакамандуючага" выступіў не хто іншы, як дырэктар школы – Васіль Аляксандравіч Любоза.

Бацькі навучэнцаў выпускных класаў вырашылі не на словах, а на справе падтрымаць сваіх хлопцаў, будучых абаронцаў Айчыны. Хлопцы і іх бацькі склалі адну каманду, так званую "11-ю роту". Каб надаць спартыўнаму спаборніцтву інтрыгу і добры дух суперніцтва – ёй была супрацьпастаўлена "9-я рота", каманду якой склалі глыбоцкія "сілавікі" з вайсковай часткі ВК-13 УДВП і Дэпартамента "Ахова".

Арганізатары гэтага спартыўнага мерапрыемства не прагадалі! Адна справа, калі спаборніцтвы праходзяць сярод бацькоўскіх камандаў аднаго класа альбо школы, іншая справа, калі супрацьстаіць табе каманда (у нас – "рота"), дзе яе чальцы па доўгу службы павінны штодзённа падтрымліваць сваю спартыўную форму. Вось тут і ёсць інтрыга, бо супрацьлеглы бок ("11-ая рота") мусіць даказаць, што "застаўся яшчэ порах у парахаўніцах" і колішняя вайсковая загартоўка бацькоў хлопцаў яшчэ канчаткова не страчаная і можна яшчэ на роўных паспаборнічаць з "сілавікамі".

У спартыўнай зале было ўжо не так і цёпла. Люты на двары! Гледачы, якія завіталі сюды падтрымаць спартоўцаў, сядзелі ў куртках не распранаючыся. Затое прахалода была дарэчы для таго спартыўнага накалу, які панаваў пад час спаборніцтваў.



Вакальна-харэаграфічнае прадстаўленне – «Парыжа танга» выконваюць вучні 5 «А» класа.

У чым выяўлялі свой спрыт, майтэрства і хуткасць "вайскоўцы" дзвюх "ротаў"? У бегу на хуткасць па гімнастычнай сценцы, стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі, падцягванні на перакладзіне, праходжанні па "мінным полі" з завязанымі шалікам вачыма, скоках з месца (рукзак за спіной з грузам 4 кг, ногі разам) у даўжыню, скоках са скакалкай, эстафеце, дзе штораз мяняліся спартыўныя прыстасаванні: то хадулі, то мячык…

Досыць эмацыйна праходзілі спаборніцтвы па перапаўзанні пад перашкодамі. Гэта нейкае ўяўнае прасоўванне вайсковага падраздзялення папластунску наперад – ці то ў скрытую атаку, ці то пад калючым дротам варожай агароджы. Толькі тут у якасці перашкоды стаялі дзве лаўкі паралельна, а зверху накладзеныя гімнастычныя палкі. Вось тут на першым месцы былі, можа, не спрыт і не хуткасць, а габарыты фігуры. Калі ў цябе жывоцік, то лічы, што жывоцік і ёсць найбольшая перашкода – усе палкі пазбіваеш, а разам з гэтым знізіцца і хуткасць.

Настаў час назваць "асабовы склад "ротаў", што ўдзельнічалі ў спаборніцтвах.

**"9-ая рота":** Стахоўскі Дзяніс Канстанцінавіч; Пашкевіч Аляксандр Юр'евіч; Краснадубскі Аляксандр Мікалаевіч; Шынкевіч Аляксандр Іосіфавіч; Аляксандровіч Расціслаў Мікалаевіч; Сырапятка Андрэй Алегавіч – усе з Дэпартамента "Ахова"; Жамчужнікаў Яўген Сяргеевіч; Зінкевіч Юрый Уладзіміравіч; Ліля Аляксандр Уладзіміравіч; Мацкевіч Юрый Антонавіч; Пятроўскі Аляксандр Антонавіч; Міхалевіч Мікалай Мікалаевіч – усе з ВК-13 УДВП.

**"11-ая рота":** Латарцаў Аляксандр; Марачкоўскі Аляксандр; Пачкоўскі Іосіф Іванавіч; Дзямідовіч Іван Антонавіч; Палачанін Уладзімір; Савіцкі Андрэй; Крывёнак Анатоль Алегавіч; Ліпскі Валерый Міхайлавіч; Таляронак Сяргей; Карпеня Андрэй; Шынкевіч Юрый Іосіфавіч; Філіповіч Аляксандр Пятровіч.

Кульмінацыяй спартыўнага свята сталася перацягванне каната. Увогуле, на розных спаборніцтвах перацягванне каната – вельмі эмацыйны і гучны від каманднага паядынку. А тут на другой спробе раптам па цэнтры разрываецца мацаванне двух канатаў! Сіла інерцыі імгненна паклала абедзве каманды на падлогу па прынцыпе «куча мала»! "Пашанцавала", зразумела, адной відэааператарцы, якая зняла гэты драматычны момант. Можна цяпер і відэаролік "закінуць" на тэлебачанне ці ў інтэрнэт у намінацыю "Улётнае відэа".

У перапынках паміж відамі спаборніцтваў прысутных весялілі вакальна-харэаграфічныя пастаноўкі вучняў 5 «А» і 6 «В» класаў. У гэтых "вайсковых манёўрах" выйгралі ўсе: кожны член каманды атрымаў па торціку і дыплому. А пераможцы («9-ая рота») у дадатак былі ўзнагароджаны нататкамі. Узнагароды ўручыў "галоўнакамандуючы", ён жа дырэктар СШ №3, Васіль Аляксандравіч Любоза.

Трэба адзначыць, што вялікую работу ў правядзенні спартыўнага свята правяла класны кіраўнік 11 «Б» класа Даната Мар'янаўна Сярогіна і галоўны суддзя спаборніцтваў настаўнік фізічнай культуры і спорту Іван Іванавіч Крыкун. Арганізатары свята «Цяжка ў вучэнні – лёгка ў баі» выказваюць падзяку спонсарам РАС ДТСААФ і аддзелу па справах моладзі Глыбоцкага райвыканкама.



Падцягванне на турніку.



Праход па «міннаму полю» з закрытыма вачамі.



Граматы і падарункі ўручае "галоўнакамандуючы", ён жа – дырэктар школы Васіль Аляксандравіч Любоза.

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Назіраецца пагаршэнне ўмоў зімоўкі рыбы

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету звяртае ўвагу, што ў наш час на вадаёмах раёна назіраецца пагаршэнне ўмоў зімоўкі рыбы. Гэта звязана з рэзкім паніжэннем сярэднясутачных тэмператур, значнай таўшчынёй лёду і багатым снежным полагам. На асобных водных аб'ектах адзначаюцца перадзаморные з'явы. На тэрыторыі Глыбоцкага раёна гэта азёры Царкавішча, Гулідаўскае, Алойсберг, Вялікае, вадасховішча «Азерцы» і некаторыя іншыя.

У мэтах прадухілення шкоды, якая наносіцца рыбным рэсурсам, міжраённая інспекцыя звяртаецца да рыбаловаў-аматараў з просьбай прыняць актыўны ўдзел у высечцы майн і палонак для насычэння вады кіслародам.

Арандатарам рыбалоўных угоддзяў, каб не дапусціць гібель рыбы, рэкамендуецца наладзіць перыядычны кантроль (не менш аднаго разу ў 10 дзён) за ўтрыманнем растворанага кіслароду. Пры зніжэнні ўтрымання растворанага кіслароду ў вадзе да 3,0 мг/л неабходна наладзіць ~~высечку~~ майн, усталёўку чаротавых снапоў у прасечаныя лункі, расчыстку лёдавага поля ад снегу для ўзмацнення фотасінтэзу. Пры немагчымасці прадухілення замору– арганізаваць максімальны адлоў рыбы з прыцягненнем усіх наяўных дазволеных прылад лоўлі. На азёрах Царкавішча і Гулідаўскае арандатары гэтых вадаёмаў шэраг неабходных умоў выканалі, але ў выпадку замору неабходна будзе дапамога грамадзян.

Пры неабходнасці ў выпадку ўзнікнення заморных з'яў рашэнне раённага выканаўчага камітэта па ўзгадненні з міжраённай інспекцыяй аховы жывёльнага і расліннага свету, раённай інспекцыяй аховы прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя часова для грамадзян можа быць усталяваны парадак і ўмовы вылоўлівання рыбы без абмежавання колькасці, вагі рыбы і яе памераў, але толькі дазволенымі прыладамі рыбалоўства.



**Такія падлешчыкі ловяцца на возеры Белым у Бушыках.** *Фота Кастуся Бахіра.*

Вельмі вялікая просьба да ўсіх рыбаловаў-аматараў у выпадках выяўлення передзаморных ці заморных з'яў на якім-небудзь з вадаёмаў раёна неадкладна інфармаваць міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету і раённы выканаўчы камітэт.

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Інспекцыя будзе кантраляваць законнасць усіх работ па ўборцы кустоў

Асаблівым нацыянальным здабыткам Беларусі заўсёды была і застаецца прырода. Ад стану навакольнага асяроддзя шмат у чым залежыць лёс дзяржавы. Маючы багатыя прыродныя рэсурсы, дзяржава можа паўнавартасна развівацца, і мы, грамадзяне, абавязаны садзейнічаць захаванню нашых багаццяў.

Вось і ў чарговым нумары газеты адзін з аматараў прыроды падняў тэму ўборкі хмызнякоў на палях раёна. Як і пацвярджае сам аўтар артыкула, хмызнякі высякаюцца паводле абласной праграмы «чыстыя палі», якая прадугледжвае ўборку кустоў з палёў і прыдарожных тэрыторый для павелічэння іх контурнасці. На ўсе работы, якія праводзяцца арганізацыямі раёна па ўборцы кустоў, маюцца дакументы, якія пацвярджаюць іх законнасць, (рашэнні раённага выканаўчага камітэта, сельскага Савета або лесарубачныя квіткі), да таго ж высечка кустоў лазы і іншага хмызняку вялікіх узгадненняў не патрабуе, кусты толькі засмечваюць зямлю. Можна, вядома, шмат казаць пра тое, што на працу па ўборцы кустоў прыцягваюцца жанчыны, але абмяркоўваць гэту тэму не справа інспекцыі.

Міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету законнасць работ, якія праводзяцца, увесь час кантралюе, ну а тое, што кусты сякуць уздоўж дарог, а не на палях, пытанне да тых службовых асоб, якія праводзяць адвод участкаў для ўборкі, бо адводам і вылучэннем участкаў для ўборкі кустоў інспекцыя не займаецца. Задача міжрайінспекцыі – выяўленне і спыненне самавольных высечак дрэў без адпаведных на тое дакументаў. Як правіла, яны сякуцца для продажу на дровы грамадзянам за вельмі вялікія грошы.

Толькі за тры тыдні месяца лютага супрацоўнікі інспекцыі затрымалі больш за 10 грамадзян, якія займаліся самавольнымі незаконнымі парубкамі дрэў, канфіскавана 14 м.куб. незаконна нарыхтаванай драўніны. Так, 17 лютага 2011 года супрацоўнікамі міжрайінспекцыі паблізу в. Стрынадкі Глыбоцкага раёна затрыманы 4 жыхары раёна, якія самавольна без якіх-небудзь дазваленчых дакументаў нарыхтавалі амаль 5 м.куб. лесу, усяго 51 (пяцьдзесят адно) дрэва. Парушальнікі спілавалі б яшчэ вельмі шмат дрэў, але іх незаконныя дзеянні спынілі інспектары.

Аўтар артыкула (Алесь Гай), вядома, узняў вельмі надзённую тэму, але казаць заўсёды лягчэй, чым штосьці рабіць, можна скласці рукі і сядзець далей, хай усё зарасце кустамі і травой, а раён заграззе ў смецці. Работнікі ЖКГ кожны дзень прыбіраюць снег і смецце, але не кажуць, навошта прыбіраць, усё адно снег ідзе, яны проста штодня добрасумленна робяць сваю справу, за якую мы ім удзячныя.

Караць усіх запар, без разбору, супрацоўнікі міжрайінспекцыі не збіраюцца, а свае словы, сказаныя ў адным з нумароў газеты ў мінулым годзе пра прыцягненне вінаватых да адказнасці за самавольныя рубкі я як начальнік інспекцыі пацвярджаю прыведзеным вышэй прыкладам затрымання парушальнікаў.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя і ў далейшым будзе кантраляваць законнасць усіх работ, якія праводзяцца па ўборцы кустоў, а пры выяўленні грубых парушэнняў і незаконных парубак лесу вінаватыя панясуць пакаранні.

**Тэлефоны «гарачай лініі»:** 8-02156-28670 – кругласутачна; 897-23-02, 890-55-28 ці 249-45-49 МТС.

## Віншаванкі

**Ягорушку Дуровіча**
**з першым Днём нараджэння,**
**Настассю Дуровіч**
**з 4-годдзем!**

Егорка на свете появился
Февральской морозной порой.
Защитник у мамы родился,
Он крошечный и дорогой.
Сопит в своей новой кроватке
И видит волшебные сны.
Родители смотрят украдкой
И слушают звук тишины.
Хоть много бессонниц у ночек,
Судьба припасла доброты,
Дочурка Настюшка, Егорка-сыночек –
Сбываются ваши мечты.
Вот год пролетел незаметно,
На ножках стоит молодец
И счастье поёт беззаветно
Под музыку ваших сердец.
Расти, наш малыш, будь здоровым,
Высоким, красивым с лица,
Умелым, подвижным, весёлым,
Хорошим и честным– в отца.
Сестричка Настюшка научит
Всему, что умеет сама,
Вам вместе играть не наскучит
И скоро растает зима.
Вам бабушка Чеся поможет
Любимых внучков присмотреть,
У Вас она станет моложе
И скажет себе: «Не стареть!»
Любуются вашей семьёю.
Всё правильно, так и держать!
Гордиться своею землёю
Так хочется вам пожелать!





*Бабуля Часлава.*

# Электрабяспека ці...

■ **А.Г.Палілейка,**
*інжынер Глыбоцкага РЭС.*

Электрычная энергія з'яўляецца самым універсальным і зручным для карыстання відам энергіі як на вытворчасці, так і ў побыце. Дзякуючы электрычнай энергіі, мы выкарыстоўваем у паўсядзённым жыцці тэлевізары, магнітафоны, пыласосы, прасы, пральныя машыны і іншыя электрабытавыя прыборы.

Пры звычайнай рабоце і эксплуатацыі гэтыя прыборы і абсталяванне бяспечныя, але электрычная энергія ўтойвае ў сабе смяротную небяспеку для жыцця чалавека, калі парушаюцца правілы яе ўжывання. Электрычная энергія можа прынесці і непапраўную шкоду здароўю, калі пры яе выкарыстанні не выконваць меры асабістай засцярогі і не выконваць элементарныя правілы бяспекі.

Адной з асаблівасцяў электрычнага току з'яўляецца тое, што ён нябачны, не мае ні паху, ні колеру, таму выявіць яго без адмысловых прыбораў чалавек не можа. Электрычны ток паражае раптоўна, калі чалавек станецца «ўключаным» у ланцуг праходжання. Пры гэтым ток пашкоджвае тканіны на ўсім шляху яго праходжання праз цела чалавека.

Параза электрычным токам можа наступіць і пры набліжэнні на недапушчальна блізкую, небяспечную адлегласць да змешчаных пад напругай токаводных частак, а таксама пры трапленні чалавека пад так званую крокавую напругу, якая ўзнікае ў зоне абрыву і падзення на зямлю правадоў дзеючых ліній электраперадач.

Штогод адбываюцца няшчасныя выпадкі пры спробе пракрасціся ўнутр энергетычных аб'ектаў (трансфарматарныя падстанцыі, размеркавальныя прылады).

Людзі, штодня праходзячы ля апор, пад пралётамі паветранай лініі электраперадач, не задумваюцца пра небяспеку, якая ўтойваецца ў іх.

Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў ад дзеяння электрычнага току, неабходна памятаць і выконваць наступныя правілы электрабяспекі:

1. смяротна небяспечна датыкацца да любых правіслых ці абарваных правадоў, падыходзіць бліжэй, чым на 8-10м, да абарваных правадоў паветраных ліній.

2. Для прадухілення выпадкаў дзіцячага электратраўматызму дзецям неабходна забараняць:

– залазіць на дахі дамоў, будынкаў і дрэвы ў тых месцах, дзе паблізу праходзяць электрычныя правады;

– на апоры і мачты паветраных ліній электраперадач, накідваць дрот і іншыя прадметы на правады;

– запускаць каля ліній паветраных змеяў;

– разводзіць вогнішчы;

– разбіваць ізалятары і лямпы.

3. Забараняецца праводзіць якія-небудзь гаспадарчыя работы, узводзіць пабудовы, разгружаць ці складваць матэрыялы пад паветранымі лініямі электраперадач ці паблізу іх.

Грамадзяне, памятайце пра небяспеку, якую ўтойвае ў сабе электрычны ток, пра выкананне элементарных правілаў тэхнікі бяспекі.

### Глыбоцкі раён электрычных сетак папярэджвае!

Пры ўзнікненні аварыйнай сітуацыі: абрыў провада, пашкоджанне апоры лініі электраперадач, падзенне дрэў на лінію электраперадач і іншых пашкоджанняў, ні ў якім разе не набліжайцеся да месца пашкоджання. Неадкладна паведаміце пра здарэнне дыспетчару Глыбоцкага раёна электрычных сетак па тэлефоне 2-62-41.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

28 лютага - 6 сакавіка 2011 г.







Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 рублёў.

Кожнае далейшае дадатковае слова – 300 рублёў.

Абвестка тлустым шрыфтам да 5 слоў – 3000 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 400 рублёў.

Між тым, парадак прыёму прыватных абвестак у месцах продажу нашай газеты – нязменны.









## ПАНЯДЗЕЛАК, 28 лютага



**03.20**, **07.10**, **08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**03.30** 83-я церемония вручения ежегоднойпремии«Оскар» Американской киноакадемии.Прямая трансляция.
**07.00**, **08.00**, **09.00**, **12.00**, **13.00**, **14.00**, **15.00**, **16.00**, **17.00**, **18.00**, **19.00**, **23.50** Новости.
**07.05**, **08.10** Зона Х.
**07.30**, **08.25**, **11.55** Деловая жизнь.
**08.30**«В миремоторов».
**09.10** Женское ток-шоу
**10.10** Здоровье.
**10.35** Культурные люди.
**11.05** Криминальная мелодрама **«Затмение»**
**12.10«Седьмой лепесток»**
**14.05** «Моя правда» «Елена Проклова».
**15.15**, **19.10** Новости региона.
**15.40** «OFF STAGE LIFE»
**16.05** Nota Bene.
**16.30 «Маршрут милосердия»**
**17.25 «Затмение»**
**18.25** «Окно в Европу».
**18.50**, 00.00 «Зона Х»
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** Ответный ход.
**21.00** «Панорама».
**21.45** «Командировка».
**21.55** 83-я церемония вручения ежегодной премии «Оскар» Американской киноакадемии
**00.10** День спорта.
**00.20** Хоккей для всех.

АНТ

**06.00**,**09.00**Нашиновости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10 «Моя жена меня приворожила».**
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Союз».
**11.50 «Папа на все руки»**
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор»
**14.50**«Понять.Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо».**
**17.05«Словоженщине»**.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Граф Чапский. Драма реформатора».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05**«Открытый формат».
**22.10 «Золотой капкан»**.
**23.15** Наши новости.
**23.30** Новости спорта.
**23.35** «Анне Вески.



Горячая эстонская женщина».
**00.35 «Иван Подушкин. Джентльмен сыска».**
**01.25-01.45** Ночные новости.



**06.35 «Универ»**
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05 «Чисто английские убийства»**
**09.00 «Ты моя жизнь»**
**10.00«Как заработать 20 миллионов баксов»** (США).
**11.50** Пра мастацтва.
**12.15** Школа ремонта.
**13.10** Час суда. Дела семейные.
**14.10** Сериал **«Сила притяжения»**
**15.05** Мультсериал **«Семейка пиратов»**
**15.30** Внеклассный час.
**15.45** Новости погоды.
**16.05«Налетчики»**
**16.55 «Чисто английские убийства»**
**18.00 «Ты моя жизнь»**
**19.05** Киноповесть **«Пацаны»** (СССР).
**20.50** Калыханка.
**21.05** Телебарометр.
**21.10** Белорусское времечко.
**22.15 «Интерны»**
**22.55 «Универ»**
**23.25** Овертайм.
**23.55**Футбол.Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**00.50** Детективный сериал **«Налетчики»**



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40**«Держи меня крепче».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Я-путешественник».
**13.00** «У парадного подъезда»
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». Варвара против группы «FLAT».
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Огонь любви».**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.35 «ПРОГУЛКА»**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25 «9 РОТА».**

БЕЛСАТ tv BELSAT

**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:30 «Пад покрывам нябёсаў»**ott).
**9:45** «Чэслаў Немэн»
**10:45** Прэс-экспрэс
**11:05** ПраСвет
**11:30** Эксперт
**12:00** Аб'ектыў
**12:05 «Пад покрывам нябёсаў»**ott).
**14:20** «Чэслаў Немэн» дак. фільм
**15:20** Прэс-экспрэс
**15:35** ПраСвет
**16:05** Эксперт
**16:30** Басанож па свеце «Вануату»
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Мой родны горад»**: 38 серыя
**17:30 «Час гонару»**: 18 серыя
**18:20** «Уладзімір Арлоў», 2008 г., Беларусь
**18:40** Прэс-экспрэс
**18:55** «НКВД – гестапа. Браты па крыві», дак. фільм, рэж. Уладзімір Самойлаў, 2009 г., Беларусь
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Гарачы каментар
**19:45** Калыханка для самых маленькіх
**19:55** Еўропа сёння
**20:25** «Дзе мае бацькі? Пакінутыя дзеці ў Румыніі», дак. фільм, 2008 г., Румынія
**21:00** Аб'ектыў
**21:20** Сцяна, дак. цыкл
**21:35**Прыватнаякалекцыя
**22:05 «Пад покрывам нябёсаў»**
**0:20** Аб'ектыў
**0:40** Гарачы каментар

